

# Шлях да Бэтлеему

**П'еса-апокрыф у 2-х дзеях**

АСОБЫ

Асёл.
Гаспадар.
Зорка.
Парсюк.
Леў.
1-ы Жаўнер.
2-і Жаўнер.
Крот.
Чорт.
Малпа.
Язэп.
Марыя з Дзіцяткам.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З'ява першая

По дарозе брыдзе Асёл, запрэжаны ў вазок. На вазку – некалькі мяхоў і бочак. Побач ідзе Гаспадар. Асёл заўважае ля дарогі дрэва і нясмела цягнецца да ягоных калючых галін.

Гаспадар *(торгае за вяроўку)*. Куды, злыдух?! Куды?

Галодны Асёл упарціцца. Гаспадар з усяе сілы цягне за вяроўку.

Ах ты, лантух, ах ты, жарло! Ніводнае калючкі не праміне́ш! Трапім мы сёння дадому ці не? *(Кідае вяроўку і папіхае Асла.)* Ану, пайшоў!

Стомлены Асёл упіраецца і незадаволена раве. Гаспадар ламае з дрэва дубец і б'е Асла.

Во табе, лайдак! Во табе! Не хочаш ісці самахоць – пойдзеш жывасілам!

Асёл раве ад болю, але не рухаецца з месца.

*(Кідае дубец, выцірае рукой мокры лоб.)* Цьфу! Што за натурлівая жывёліна! Я ажно ўпрэў, а ён – ні з месца. Адно слова, асёл. Здзерці скуру – ды на бубен. Давядзецца начаваць на дарозе. *(Прывязвае Асла да дрэва. Потым здымае з пояса фляжку і п'е віно.)* Смаката! Добрае вінцо! *(Уладкоўваецца пад дрэвам і засынае з фляжкай у руцэ.)*

Цямнее. На небе з'яўляюцца першыя зоркі. Асёл задзірае галаву ўгору і з асалодай уцягвае свежае паветра.

Асёл *(глядзіць на неба)*. Зоркі... Якія яны прыгожыя, якія шчаслівыя. *(З зайздрасцю.)* Добра ім там, на небе. Не ведаюць яны ні цяжкіх мяхоў, ні пякучых бізуноў. Эх, чаму я нарадзіўся на свет аслом?! Зоркі-зоркі, вазьміце мяне да сябе. Тут, на зямлі, я няшчасны і самотны! Не чуюць... Ніхто мяне не чуе і не разумее. *(Уздыхае.)*

Нечакана адна з Зорак спускаецца з неба і сядае проста на дрэва, да якога прывязаны Асёл.

Зорка. Мір табе, божае стварэнне!

Асёл *(здзіўлена)*. Ты хто?

Зорка. Я – Зорка.

Асёл *(недаверліва)*. Зорка? Хіба зоркі растуць на дрэвах?

Зорка. Я не звычайная зорка, а Бэтлеемская. Я спусцілася з неба, каб абвясціць табе радасную навіну: на зямлю прыйшоў Бог.

Асёл. А хто такі Бог?

Зорка. Бог – гэта Той, хто стварыў Сусвет, і Той, дзеля каго Сусвет створаны! Бог – гэта Той, хто любіць усіх, і Той, каго ўсе могуць любіць!

Асёл *(перапыняе)*. Не, мяне ён не любіць. Навошта ён стварыў мяне Аслом? Каб я штодня працаваў да знямогі, зносіў голад, кухталі ды лаянку? Каб усе з мяне смяяліся і здзекаваліся?

Зорка. На зямлі, якой яе стварыў Бог, не было цяжкай працы, няволі, голаду ды хваробаў. Усе: людзі, жывёлы, расліны – былі радасныя і шчаслівыя. А потым людзі выгналі Бога і ўсё змянілася. На зямлі запанавалі беды і няшчасці.

Асёл *(зірнуўшы на п'янага Гаспадара)*. Дык вось хто ва ўсім вінаваты!

Зорка. Але цяпер Бог вярнуўся на зямлю, каб збавіць усіх яе жыхароў. Радуйся, божае стварэнне! Табе першаму з жывёлаў адкрыта вялікая таямніца.

Асёл *(збянтэжана)*. Мне? Але што я такога зрабіў? Я – звычайны, шэры, даўгавухі Асёл!

Зорка. Так захацеў Бог, бо ён любіць цябе.

Асёл. Ах, не смейся з мяне, сястрыца Зорка! Усёмагутны Бог, які стварыў Сусвет, любіць няшчаснага Асла, якога не любіць ніхто на зямлі! Нават Гаспадар.

Зорка. А Ён любіць, павер мне.

Асёл. А я... я магу любіць Бога? Мая любоў нікому не патрэбна, нават Гаспадару. А Богу – яна патрэбна?

Зорка *(таямніча)*. Яму патрэбна больш – твая дапамога.

Асёл *(пакрыўджана)*. Ты зноў смяешся з мяне, сястрыца Зорка? Чым я магу дапамагчы Богу?

Зорка. Не ведаю, мой дружа. Але Ён даручыў мне перадаць наступную просьбу: «Братка Асёл, прыйдзі ў горад Бэтлеем і дапамажы мне». Вось і ўсё. У кожнага стварэння свой шлях да Бога. Твой шлях – да Бэтлеему. Пойдзеш?

Асёл *(адважна)*. Пайду. А магу я ўзяць з сабой свайго сябра Парсюка?

Зорка. Чаму не? Надзейны сябар – знаходка ў дарозе. *(Зорка спускаецца з дрэва і адвязвае Асла ад дрэва.)*

Асёл *(сарамліва)*. Скажы, сястрыца Зорка, а калі я дапамагу Богу, Ён споўніць маё запаветнае жаданне?

Зорка. Абавязкова, толькі трэба жадаць усім сэрцам. Шчаслівай дарогі, братка Асёл. *(Уздымаецца ў неба.)*

Асёл. Бывай, сястрыца Зорка! Да сустрэчы на небе. *(Сам сабе.)* Я таксама хутка буду Зоркай! *(Спахапіўшыся.)* Але пачакай, Зорка! Як я пазнаю Бога, калі я ніколі яго не бачыў? Як Ён выглядае?.. Не чуе. Паляцела. *(Задумваецца.)* Можа, Бог падобны да зоркі? *(Усміхаецца.)* А, можа, да Асла? *(Уздрыгвае.)* А раптам – да чалавека?

П'яны Гаспадар варушыцца ў сне, нешта мармыча сабе пад нос.

*(Зірнуўшы на Гаспадара.)* Не, не можа Бог быць падобным да чалавека! Бывай, Гаспадар, я выпраўляюся ў Бэтлеем шукаць Бога! *(Задумваецца.)* Але што рабіць з вазком? Шкада пакідаць яго тут. Гэтулькі дарог разам прайшлі, гэтулькі мяхоў перавезлі. Вазьму з сабой. *(Знікае з вазком за паваротам дарогі.)*

Праз нейкі час Гаспадар прачынаецца, працірае кулакамі вочы.

Гаспадар. Што? Дзе? Куды? *(Разглядаецца.)* Дзе мой вазок? Дзе мой Асёл? *(Бачыць пад дрэвам вяроўку.)* Уцёк, злыдух! Нейкі д'ябал у яго ўсяліўся! Ну, пачакай, валацуга, злаўлю – здзяру шкуру на бубен! *(Бяжыць за Аслом.)*

### З'ява другая

*За загарадкаю перад хлявом сядзіць рабы* Парсюк *і сёрбае з карыта. На падворку з'яўляецца* Асёл.

Асёл. Братка Парсюк, у мяне такая навіна! Такая навіна!

Парсюк *(не адрываецца ад карыта).* Няма ў свеце навіны, дзеля якой варта перапыняць сняданак. Рох-рох...

Асёл. На зямлі з'явіўся Бог!

Парсюк. І што з таго?

Асёл. Ён нас любіць і чакае нашай дапамогі. Мы мусім выпраўляцца ў Бэтлеем і адшукаць там Бога.

Парсюк. А навошта Ён нам?

Асёл *(разгублена).* Як навошта? Ён жа нас любіць...

Парсюк *(абыякава).* Мяне і так усе любяць, рох-рох.

Асёл. Калі мы яму дапаможам, Ён здзейсніць усе нашы мары. Зробіць нас шчаслівымі!

Парсюк *(груба).* Я ўжо шчаслівы.

Асёл. Табе не патрэбны Бог?

Парсюк. Мне патрэбны Гаспадар. Ён мяне смачна корміць, гладзіць па баках і спявае пяшчотна: «Дзюдзю, дзюдзю!» Цябе Гаспадар так любіць?

Асёл *(сумна).* Не. Бывае, зусім не корміць, а па баках гладзіць бізуном.

Парсюк. Вось таму ты і прыдумаў сабе Бога. А мне Ён навошта? Які з яго наедак? Га? Маўчыш.

Асёл *(апусціўшы галаву).* Не разумею: чаму Гаспадар цябе так любіць? Смачна корміць, не прымушае працаваць да знямогі.

Парсюк *(самазадаволена).* А ты зірні, які я прыгожы ды ладны. *(Паварочваецца да Асла адным, потым другім бокам.)* Хіба мяне можна не любіць?

Асёл. Няўжо я такі няўклюдны і брыдкі, што не варты хаця б спагады?

Парсюк. Прыгажосцю ты, братка Асёл, не вылучаешся. Розумам — таксама. Вечна табе ў галаву нешта стрэліць. Бог, Бэтлеем. *(Схіляецца над карытам.)*

Асёл. А я спадзяваўся, мы разам пойдзем у Бэтлеем.

Парсюк. Я яшчэ не звар'яцеў. І табе раю – апамятайся, братка Асёл.

Асёл. Я ўцёк ад Гаспадара...

Парсюк. Наш добры Гаспадар табе даруе.

Асёл. Не, я не застануся. *(Цвёрда.)* Бывай, братка Парсюк.

Парсюк *(наўздагон).* Вярніся, шалёны! Як цяпер Гаспадар будзе прывозіць мне ежу?

Запрэжаны ў вазок Асёл знікае ўдалечыні. Парсюк працягвае сёрбаць з карыта. Праз нейкі час ля загарадкі з'яўляецца Гаспадар з пустым мяшком у руках. Гаспадар пералазіць праз загарадку, падыходзіць да Парсюка і гладзіць яго па баках. Парсюк задаволена рохкае.

Гаспадар *(ласкава).* Дзюдзю, дзюдзю! Ах ты мой падласы, ах ты мой тлусты! Карміў я цябе, гадаваў. Думаў, выгадую акурат да святочнага стала. *(Вымае з-за пояса вялізны нож, праводзіць па вострым лязе і, ўздыхнуўшы, хавае назад.)* Смачныя атрымаліся б шынкі ды кілбасы. Але так усё павярнулася, што давядзецца цябе прадаць. Мушу выпраўляцца шукаць твайго прыяцеля Асла, каб яго кадук. Папомніць ён, як уцякаць ад свайго Гаспадара. Я з ягонай дурной галавы зоркі выб'ю. Ты, Дзюдзю, не крыўдуй, калі цябе з'есць нехта іншы. *(Абмацвае Парсюка і ўздыхае.)* Шкада... Смачныя былі б шынкі ды кілбасы...

Гаспадар накідвае мяшок на Парсюка. Парсюк вішчыць ад страху. Узваліўшы мяшок з Парсюком на плечы, Гаспадар адыходзіць.

### З'ява трэцяя

Бязлюдная мясціна па дарозе на Бэтлеем. Дзе-нідзе растуць рэдкія дрэўцы. Асёл сілкуецца калючкамі.

Асёл. Па дарозе ў Бэтлеем нават калючкі смачнейшыя!

З-за дрэва высоўваецца Гаспадар з вяроўкай у руках, падкрадаецца да Асла і спрытна накідвае на яго пятлю.

Гаспадар. Ага, папаўся, валацуга! Ад мяне не ўцячэш!

Асёл. Ы-ы-ы-ы-ы!..

Гаспадар. Ану, дадому! *(Цягне за вяроўку.)*

Асёл *(упарціцца)*. Ы-ы-ы-ы!

Гаспадар. Не хочаш ісці дадому? *(Хапаецца за бізун.)* А бізуна хочаш?

Раптоўна наваколле скаланае львіны рык: «Р-р-р-р!»

Асёл *(спалохана)*. Ы-ы-ы-ы!

Гаспадар *(насцярожана)*. Ціха! *(Прыслухоўваецца.)*

Пагрозлівы рык набліжаецца: «Р-р-р-р! Р-р-р-р!»

*(Спалохана.)* Леў! Бяжыць сюды! Ён нас з'есць!

Асёл *(вырываецца)*. Ы-ы-ы-ы!

Гаспадар *(мітуслівa)*. Што рабіць? *(Суцяміўшы.)* Во! Пакіну яму на з'яданне Асла, а сам схаваюся! *(Прывязвае Асла да дрэва і ўцякае.)*

З'яўляецца Леў, магутны і страшны.

Леў. Р-р-р-р!

Асёл *(заплюшчвае вочы)*. Я загінуў!..

Леў уздымае лапу і... абрывае вяроўку, вызваляючы спалоханага Асла.

Леў. Не бойся, дружа! Ты – свабодны.

Асёл *(расплюшчвае вочы)*. Ты мяне не з'ясі?

Леў. Не. Я вызваліў цябе, бо не прызнаю ў сваіх уладаннях няволі.

Асёл. У тваіх уладаннях? *(Нясмела.)* Можа, ты Бог?

Леў. Я – Леў, кароль над звярамі і жывёламі. А хто такі Бог?

Асёл. Бог – гэта той, хто стварыў Сусвет і нас усіх...

Леў *(перапыняе)*. Значыцца, гэта Бог стварыў мяне каралём?

Асёл *(працягвае)*. ...хто ўсіх нас любіць і каго мы можам любіць.

Леў *(расчаравана).* Якая наіўнасць! Абвяшчаць апірышчам сваёй улады любоў? Ха! Толькі сіла выклікае павагу ў зямных стварэнняў. *(Рыкае.)* Толькі сіла!

Асёл. Ты магутны, але справядлівы. Ты вызваліў мяне з рук Гаспадара. Таму я адкрыю табе вялікую таямніцу. Бог вярнуўся на зямлю!

Леў. Трэба быць вельмі смелым, каб адважыцца на такое!

Асёл. Ён з'явіўся ў Бэтлееме і чакае нашай дапамогі.

Леў. Ён паспеў ужо трапіць у бяду? Ха-ха! Я ж казаў: дабрыня і любоў не ратуюць у гэтым свеце. *(Рыкае.)* Толькі сіла! *(Да Асла.)* Дык ты ўцёк ад Гаспадара, каб ісці ў Бэтлеем на дапамогу Богу?

Асёл. Так. Мой Гаспадар дрэнна абыходзіўся са мной: прымушаў цяжка працаваць, часта біў і брудна лаяўся. *(Даверліва.)* Я хачу прасіць Бога, каб Ён ператварыў мяне ў Зорку. На зямлі я такі няшчасны.

Леў. Марныя твае спадзяванні, сябра. Бог табе не дапаможа. Ён нават ад злога Гаспадара цябе не абароніць.

Асёл *(разгублена).* Чаму?

Леў. Нават я, магутны ўладар, не здольны ператварыць асла ў зорку, а зорку ў асла. А твой Бог, як я зразумеў, стварэнне наіўнае і слабое, інакш ён не прасіў бы дапамогі ў цябе, звычайнага шэрага Асла.

Асёл *(уздыхае).* Што ж мне рабіць?

Леў. Заставайся са мной, я нікому не дам цябе ў крыўду. У маім каралеўстве ты будзеш сам сабе гаспадаром: будзеш хадзіць, дзе захочаш, жывіцца, чым захочаш.

Асёл. Праўда? І ты не змусіш мяне працаваць ад рання да змяркання?

Леў *(рыкае).* Маё каралеўскае слова. Навошта ты цягаеш за сабой гэты недарэчны вазок? Пазбудзься яго, ты – вольнае стварэнне.

Раптам чуваць пагрозлівыя крыкі, бразгат зброі, грукат бубнаў з усіх бакоў.

*(Незадаволена).* Што такое? Што за вэрхал у маіх уладаннях? Р-р-р-р! *(Бяжыць на шум, які ўзмацняецца.)*

Крыкі, тупат ног, бразгат зброі зліваюцца з ільвіным рыкам. Леў вяртаецца акрываўлены, са стралой у спіне.

Ратуйся! Паляўнічыя! У іх стрэлы і дзіды! Яны забіваюць здалёк! Уцякайма! *(Кідаецца ў розныя бакі, але адусюль яго сустракаюць крыкамі, грукатам бубнаў, стрэламі і дзідамі.)*

Асёл хаваецца за дрэва, зрэдку высоўваючы галаву. Шум сціхае гэтак жа раптоўна, як пачаўся. Асёл асцярожна выбіраецца з-за дрэва. Прыпаўзае Леў, увесь паранены, працяты дзідамі ды стрэламі.

*(З апошніх сілаў уздымае галаву.)* Я нічога не мог зрабіць. У іх стрэлы і дзіды... яны забіваюць здалёк... *(Памірае.)*

Асёл *(з жахам).* Яны забілі яго! Магутнага караля над звярамі і жывёламі! *(Уцякае з усіх ног.)*

З'яўляецца Гаспадар. Заўважае нерухомага Льва, асцярожна падкрадаецца да яго і кранае дубцом, каб пераканацца, што Леў мёртвы.

Гаспадар *(урачыста).* Здох. *(Залазіць на Льва і трымаецца за дзіду, якая тырчыць у спіне ў звера.)* Гэй, сюды! Сюды! Леў мёртвы!

З'яўляюцца Жаўнеры цара Ірада.

1-ы Жаўнер *(смяецца).* Зірні на героя!

2-і Жаўнер *(груба).* Гэй, самарыцянін, злазь з нашага звера! Папсуеш скуру!

Гаспадар. Гэта мой Леў! Я вас сюды прывёў.

1-ы Жаўнер. А мы яго забілі. Гэта нашая здабыча. *(Выштурхоўвае Гаспадара з тушы Льва.)*

Гаспадар. Леў з'еў майго Асла! Таму ён належыць мне.

2-і Жаўнер. З'еў цэлага Асла ды яшчэ з вазком? Пайшоў прэч, дурань.

Гаспадар. Мы з вамі дамаўляліся! *(Ные.)* Аддайце мне майго Льва.

1-ы Жаўнер. Маўчы, паганец! Гэты Леў забіты ўва уладаннях цара Ірада і паводле закону належыць яму!

2-і Жаўнер. Здымем з ільва шкуру і занясём цару Іраду ў падарунак. Можа, атрымаем узнагароду.

Жаўнеры бяруць Льва за лапы і валакуць за сабой. Услед цягнецца Гаспадар.

Гаспадар *(ціха)*. Ашуканцы! Рабаўнікі! Злодзеі!

## З'ява чацвёртая

Поле недалёка ад Бэтлеему. На даляглядзе ўзвышаюцца гарадскія муры. З-пад зямлі вынырвае галава Крата, а потым і ўвесь Крот. Ён выцягвае за сабой на паверхню мех з зямлёй.

Крот *(мармыча)*. Пазаўчора прайшоў дзесяць метраў – два мяхі зямлі. Учора пятнаццаць метраў – тры мяхі. Сёння толькі пяць метраў – адзін мех. Разам – шэсць мяхоў. *(Аддыхваецца.)* Божа, дапамажы мне! Узнагародзь мяне за маю працу – дай сілы дабрацца да твайго Раю.

Над Кратом вырастае постаць Асла. Сонны Асёл цягне вазок, пакуль не натыкаецца на мех з зямлёй.

*(Заўважае над сабой Асла.)* Ой! *(Хаваецца пад зямлю.)*

Асёл *(угледзеўшы пад нагамі Крата)*. Прабач мне, божае стварэнне! Я крыху задрамаў і не заўважыў цябе на дарозе.

Крот *(вылазіць на паверхню)*. Во-во! *(Злосна.)* Сонца ўсё перакручвае вам у галовах. Вы ніколі не заўважаеце, што ў вас дзеецца пад нагамі. Заўсёды вашыя вочы ўтароплены ў неба, быццам там ёсць нешта вартае ўвагі. Фы! *(Узнёсла.)* Божа, ратуй мяне ад марнасці гэтага свету!

Асёл *(імгненна прачынаецца)*. Ты сказаў «Божа»? Адкуль ты ведаеш?! Я думаў, што ўва ўсім свеце толькі я ведаю гэтую таямніцу.

Крот. Фы! Якія могуць быць таямніцы ў свеце? Усе таямніцы ў цемры, і каму, як не мне, Крату, ведаць іх?

Асёл. Ты ведаеш, што ёсць Бог, які стварыў усіх нас...

Крот *(перапыняе)*. ...і дзеля якога ўсе мы створаны.

Асёл *(узрадавана)*. Ёсць Бог, які любіць нас...

К р о т *(працягвае).* ...і якога можам любіць мы. *(Пагардліва.)* Знайшоў таямніцу! Можа, ты знайшоў і самога Бога?

А с ё л *(разгублена).* Не, толькі шукаю... Ты ўсё ведаеш. Давай шукаць Бога разам, братка Крот! Ён тут, у Бэтлееме. *(Глядзіць на гарадскія муры.)*

К р о т *(важна).* А што я, па-твойму, раблю?

А с ё л *(глядзіць на мех з зямлёй).* Рыеш зямлю.

К р о т *(істэрычна).* Капаю і рыю, рыю і капаю, шукаючы Бога, які жыве глыбока пад зямлёй!

А с ё л *(узіраецца пад ногі).* Глыбока пад зямлёй? *(Задзірае галаву і ўзіраецца ў неба.)* Дзе там, братка Крот! Ты ўсё пераблытаў, Бог жыве высока ў небе!

К р о т *(фанатычна).* Во-во, гэта — галоўная ваша памылка! Бог — на небе! Фы! *(Смяецца.)*

А с ё л *(асцярожна).* Але паслухай, пра Бога мне расказала Зорка, якая на крылах спусцілася з неба!

К р о т. Фы-фы! На крылах! Птушка! Ты паверыў птушцы! Які ж ты асёл! А можа, табе гэта толькі прымроілася? *(Экзальтавана.)* Божа, ратуй мяне ад прывіднасці свету і кіруй працай маіх лапак да твайго Раю, які схаваны глыбока-глыбока! *(Знікае пад зямлёй.)*

А с ё л *(крычыць).* Пачакай, пачакай, братка Крот! Вярніся, я хачу разам з табой шукаць Бога!

К р о т *(высоўвае галаву).* Ты прызнаеш сваю памылку?

А с ё л *(апускае галаву).* Ах, я так нядаўна даведаўся пра Бога! І так мала... Можа, ты маеш рацыю.

К р о т. Я ведаю пра Бога ад свайго бацькі, а той — ад свайго, а дзед — ад прадзеда... З пакалення ў пакаленне перадаецца ў нас, кратоў, запавет — капаць і рыць углыб зямлі, пакуль не дасягнем Раю і не знойдзем Бога. *(Таямніча.)* Ведаеш, мне здаецца, я ўжо зусім блізка да мэты. Я нутром адчуваю блізкасць Бога. Нас аддзяляе ад Яго некалькі метраў!

А с ё л *(усхвалявана).* Дык рый хутчэй, братка Крот! Каб я мог табе дапамагчы!

К р о т. Шмат часу я трачу на тое, каб выцягнуць мяхі з зямлёй на паверхню і высыпаць як мага далей ад шахты, абы людзі не заўважылі ўваходу. Бярыся за гэтую працу.

Асёл. Згода!

Крот з Аслом бяруцца за працу. Крот знікае пад зямлёй і падае Аслу мяхі. Асёл выцягвае іх і складае на вазок.

Крот *(вылазіць з-пад зямлі)*. Усё. Шэсць мяхоў. *(Падае Аслу апошні мех.)* Я капаю далей. *(Знікае пад зямлёй.)*

Асёл. Ух, якая прыемная праца. Які гонар — першымі знайсці Бога! Дзіўна ўсё-ткі, што жыве Ён не на небе, а пад зямлёй. Але не майго розуму гэтая справа. Толькі б Бог быў добрым і споўніў маё запаветнае жаданне.

З-пад зямлі чуваць нейкі шум, лямант, жудасны рогат. Потым на паверхню выскоквае перапалоханы Крот, за ім — страшны Чорт.

Крот. На дапамогу! Ратуйце! Там — Чорт!

Чорт. Куды ты, мой даражэнькі? Куды, мой родненькі? Ты — мой! *(Задаволена рагоча.)* Я даўно цябе чакаю. *(Хапае Крата і цягне пад зямлю.)*

Асёл. Божа, гэта Чорт! *(Уцякае, раскідваючы мяхі з вазка.)*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява пятая

Раніцай на гарадскім рынку ў Бэтлееме. Бязлюдна. Каля будынка з надпісам «Шынок» стаіць вялізная драўляная клетка. У клетцы спіць Малпа. З'яўляецца 1-ы Жаўнер і голасна абвяшчае загад цара Ірада.

1-ы Жаўнер. Слухайце, жыхары Бэтлеема! Слухайце загад усяміласцівага цара Ірада! Усім, хто мае дзяцей да двух гадоў, загадана з'явіцца з імі ў царскі палац! Тых, хто не выканае загаду, чакае смяротнае пакаранне. Слухайце, жыхары Бэтлеема! Слухайце і выконвайце загад усяміласцівага цара Ірада! *(Падыходзіць да клеткі з Малпай.)* Гэй, красуня, прачніся!

Цябе пасадзілі тут не дзеля таго, каб ты спала. Пакажы мне свой мілы тварык!

Жаўнер вымае з похваў меч і, прасунуўшы яго ў клетку, казыча вастрыём мяча Малпу. Малпа прачынаецца, злосна крычыць, носіцца па клетцы, робіць жахлівыя грымасы.

*(Рагоча.)* Ха-ха, вось пачвара дык пачвара! А як смешна крыўляецца... Бывай, гарэзніца. *(Хавае меч у похвы.)* Слухайце, жыхары Бэтлеема!.. Слухайце загад усяміласцівага цара Ірада...

З завулка выходзіць на плошчу 2-і Жаўнер з мячом у адной руцэ і немаўляткам у другой.

2-і Жаўнер. Гэй, годзе крычаць! Сваім крыкам ты толькі палохаеш людзей. Ніхто па сваёй волі не прынясе дзіця ў палац, бо ўсе ведаюць, што там дзяцей забіваюць.

1-ы Жаўнер *(незадаволена)*. Але ў мяне царскі загад...

2-і Жаўнер. Ёсць новы загад: хадзіць па дамах і сілай адбіраць у бацькоў маленькіх дзяцей. Вось. *(Паказвае немаўлятка.)*

1-ы Жаўнер. Цьфу!

На рынак выходзіць з завулка цясляр Язэп. Пабачыўшы жаўнераў, паварочвае назад.

2-і Жаўнер *(да Язэпа)*. Ану, вярніся! *(Падазрона.)* Навошта хацеў уцячы ад нас?

Язэп *(неахвотна вяртаецца)*. Што вы, пане Жаўнеру, я і не збіраўся ўцякаць.

1-ы Жаўнер. Чуў загад усяміласцівага цара Ірада? Маеш маленькае дзіцятка?

Язэп *(з жахам глядзіць на немаўлятка ў руках 2-га Жаўнера і не можа вымавіць ані слова)*. ?..

1-ы Жаўнер. Ты што — глухі?

Язэп *(злякана)*. Я... не... я не тутэйшы... Я цясляр Язэп... з Назарэта. *(Апускае галаву.)*

2-і Жаўнер *(да 1-га Жаўнера)*. Пакінь яго ў спакоі. Адкуль у такого разявакі будуць дзеці? Хадзем, пашукаем на той вуліцы.

Жаўнеры адыходзяць. Язэп уздымае галаву і проста перад сабой бачыць Малпу, якая робіць міны.

Я з э п *(апамятаўшыся)*. Божа, канец свету! Бедная Марыя! *(Язэп знікае ў адным з завулкаў.)*

З іншага завулка вынырвае Гаспадар.

Г а с п а д а р. Пракляты горад! *(Здымае з пояса фляжку і робіць некалькі глыткоў віна.)* Жыхары, як пацукі, пахаваліся па дамах. Па вуліцах маршыруюць жаўнеры цара Ірада. А я ўсё такі час мушу шукаць свайго асла! *(Заўважае ў клетцы Малпу і робіць здзеклівую міну. Пакрыўджаная Малпа адварочваецца і паказвае яму зад.)* Цьфу, страхоцце якое! *(Шэптам.)* Ходзяць чуткі, быццам тут, у Бэтлееме, нарадзіўся будучы цар юдзейскі. Раз'юшаны Ірад не ведае, як яго знайсці, і таму загадаў забіць у горадзе ўсіх маленькіх дзяцей. Але мне што да таго? Мне трэба знайсці свайго асла. Сляды вядуць сюды. *(Вешае фляжку на пояс.)* Але ніводнага чалавека на вуліцы, няма ў каго запытацца... *(Знікае ў адным з завулкаў.)*

З іншага завулка паказваецца А с ё л.

А с ё л *(сам сабе)*. Эх, відаць, падманула мяне Зорка. Не сустрэў я Бога на шляху ў Бэтлеем, не знайшоў у самім горадзе. А можа, няма ніякага Бога? Толькі страшныя людзі з мячамі, якія забіваюць маленькіх дзяцей? Можа, мне ўсё прысніласяся? *(Спыняецца ля клеткі з Малпай.)* Што ж рабіць? Як далей жыць на гэтым свеце?

М а л п а *(з цікавасцю выслухаўшы Асла)*. Ці не мяне ты шукаеш, небарака?

Асёл разглядаецца і заўважае Малпу.

А с ё л *(уражаны)*. Якая дзіўная істота! Падобная да чалавека, але не чалавек. Падобная да жывёлы, але...

М а л п а. ...не жывёла. Я – Бог!

А с ё л. Бог?

М а л п а. Што, не пазнаў? Ты ўяўляў мяне іншым?

А с ё л *(разгублена)*. Так. Зусім іншым.

М а л п а. Я і ёсць іншы! Але людзі кінулі мяне ў гэтую зачараваную клетку, і маё аблічча змянілася. Жудасна змянілася! Дапамажы мне выбрацца адсюль – і ты пабачыш сапраўднае аблічча Бога.

А с ё л *(узрадавана).* Дык вось чым я магу табе дапамагчы, Божа! Вось пра што казала Зорка!

М а л п а *(узбуджана).* Ага, і Зорка так казала! Хутчэй збі замкі з клеткі і вызвалі свайго Бога!

А с ё л. Зараз, мой Божа! *(Прыладжваецца і збівае капытам цяжкія замкі.)*

Малпа выбіраецца на волю і, ашалелая ад радасці, скача па даху клеткі.

М а л п а. Я вольная, вольная! Гэты дурань вызваліў мяне! *(Пагрозліва трасе кулаком у бок завулка.)* Ну, пачакайце, людзі, я вам адпомшчу! *(Знікае ў завулку.)*

А с ё л *(наўздагон).* Куды ты, Божа? Пачакай, не пакідай мяне! Ператвары мяне ў зорку!.. *(Сам сабе.)* Знік. Нават не развітаўся. Які дзіўны Бог! Чаму ягонае аблічча не змянілася? Можа, не адразу? Можа, праз нейкі час? І тады Ён вернецца...

З завулка чуваць нейкі шум, крык, лаянка. Праз нейкі час на рынак вылятае раз'юшаная М а л п а. На галаве ў Малпы — Язэпаў брыль, у адной руцэ — меч, у другой — фляжка з віном.

Божа, што гэта?

М а л п а *(істэрычна).* Я ім адпомсціла, адпомсціла! *(П'е з фляжкі віно.)* Папомняць яны, як з мяне пасміхацца і здзекавацца! *(Знікае ў іншым завулку.)*

На рынку пачынаецца страшэнны вэрхал. Напераменку з'яўляюцца і знікаюць Ж а ў н е р ы, Я з э п, Га́с п а д а р.

1-ы Ж а ў н е р. Малпа ўцякла! Трымайце Малпу!

Я з э п. Мой брыль!

2-і Ж а ў н е р. Вярні меч! Заб'ю гадзіну!

Г а с п а д а р. Трымайце злодзея! Мая фляжка!

А с ё л *(разгублена).* Малпа? Гэта была ўсяго толькі Малпа?!

Г а с п а д а р *(заўважае Асла).* Мой Асёл! Трымайце Асла!

А с ё л уцякае. Гаспадар бяжыць за ім, але натыкаецца на 1-га Жаўнера. Жаўнер падае, але хуценька ўсхопліваецца на ногі і хапае Гаспадара.

1-ы Ж а ў н е р. Хто, я — асёл? За абразу жаўнера Яго Вялікасці цара Ірада атрымаеш сто бізуноў!

## З'ява шостая

Ноч. Закінутая стайня на ўскрайку Бэтлеема. Каля жолаба на мычцы сена спіць Марыя з Дзіцяткам на руках. У дзвярах паказваецца галава Асла.

Асёл *(разглядаецца)*. Якая занядбаная стайня! Халодная, цёмная. Не дзіўна, што пустая. *(Уваходзіць.)* Але затое Гаспадар мяне тут не знойдзе. Сёння на рынку ледзь не папаўся яму ў рукі. Пераначую ў стайні, а раніцай пакіну Бэтлеем. *(Звыкшыся з паўзмрокам, Асёл заўважае ля жолаба Марыю з Дзіцяткам.)* Ой, тут нехта ёсць! *(Асцярожна падыходзіць да жолаба.)* Маці з Дзіцяткам. Спяць. Якое гора прывяло іх у гэтую стайню? *(Прыслухоўваецца.)* Нехта ідзе! Вось табе і пустая стайня! *(Хаваецца ў закутку.)*

У стайню ўваходзіць Гаспадар з ліхтаром у руцэ.

Гаспадар. Гэй, дзе ты, нягоднік! Вылазь, я бачыў твой вазок каля стайні. Ты, пэўна што, недзе тут.

Марыя *(прачынаецца ад яркага святла)*. Мой Божа!

Гаспадар *(заўважае ля жолаба Марыю з Дзіцяткам на руках)*. А вы хто такія? Што робіце ноччу ў закінутай стайні?!

Марыя *(туліць да сябе Дзіцятка)*. Не губі нас, добры чалавек! Мы хаваемся ад жаўнераў цара Ірада. Цар загадаў забіць усіх маленькіх дзяцей у Бэтлееме. А ў мяне якраз нарадзіўся сын.

Гаспадар *(азіраецца)*. А ты не бачыла тут майго беглага Асла? Я амаль што злавіў яго, а ён зноў як скрозь донне праваліўся.

Марыя. Не бачыла, дабрадзею. Мой муж, Язэп, таксама пайшоў у горад шукаць асла. *(Уздыхнуўшы.)* Мусім да раніцы пакінуць Бэтлеем і ўцякаць у Егіпет.

Гаспадар *(задуменна)*. Дык кажаш, хаваецеся ад жаўнераў цара Ірада? *(Убок.)* Калі я аддам яе ў рукі жаўнераў – атрымаю шчодрую царскую ўзнагароду.

Марыя. Злітуйся, добры чалавек! Не выдавай нас!

Гаспадар. Не бойся, жанчына, я дапамагу вам. Чакайце тут, я прывяду асла.

12. Зак. 826

М а р ы я *(з надзеяй).* Бог узнагародзіць цябе за тваю дабрыню!

Г а с п а д а р *(убок).* Спачатку мяне ўзнагародзіць цар Ірад. *(Выходзіць.)*

Дзіцятка пачынае плакаць, Марыя суцяшае яго, гушкае на руках.

М а р ы я *(да Дзіцяткі).* Не плач, маё дзіцятка. Не плач, сыночак. Усё будзе добра. Бог не пакіне нас у бядзе.

Са свайго сховішча выбіраецца А с ё л, які ўсё чуў.

А с ё л *(усхвалявана).* Мой Гаспадар – мярзотнік! Ён падмануў няшчасную кабету. Ён пабег па жаўнераў, каб атрымаць узнагароду за жыццё дзіцяці! Чаго яна чакае? Трэба ўцякаць! Хутчэй! *(Падбягае да Марыі і раве.)* Ы-ы-ы-ы!

М а р ы я. Ой, Асёл! *(Азіраецца.)* А дзе твой гаспадар? *(Зноў азіраецца.)* Мусіць, гэта той добры чалавек з ліхтаром...

Асёл адмоўна круціць галавой, але Марыя не разумее яго. У дзвярах паказваецца спалоханы Я з э п.

Я з э п. Марыя, бяда! Сюды ідуць жаўнеры!

М а р ы я. Божа мой!

Я з э п. Я не знайшоў у горадзе асла, але там перад дзвярыма стаіць вазок... *(Звыкшыся з паўзмрокам, заўважае каля Марыі Асла.)* Асёл? Адкуль ён узяўся?

М а р ы я. Не ведаю. Можа, яго прыслаў нам Бог?

Я з э п. Мы выратаваны, Марыя! Запражэм асла ў вазок і выберамся з Бэтлеема.

Язэп выводзіць Асла са стайні, за імі выходзіць Марыя з Дзіцяткам на руках. Нейкі час у стайні ціха і пуста. Раптам дзверы адчыняюцца, у стайню ўвальваюцца Г а с п а д а р і двое ж а ў н е р а ў.

Г а с п а д а р. Сюды! Тут яны схаваліся. Гэта я іх знайшоў. Мне належыць царская ўзнагарода!

1-ы Ж а ў н е р *(уздымае ліхтар над галавой).* Нікога няма.

2-і Ж а ў н е р. Ты што, здзекуешся з нас, самарыцянін? *(Б'е Гаспадара бізуном.)*

Г а с п а д а р. Ай-ай, злітуйцеся! *(Круціцца пад ударамі бізуна.)*

2-і Жаўнер *(да Гаспадара).* Шалбер!

1-ы Жаўнер. За падман жаўнераў Яго Вялікасці цара Ірада пойдзеш у вязніцу!

Жаўнеры хапаюць Гаспадара і цягнуць яго ў вязніцу.

## З'ява сёмая

Ноч. Па дарозе брыдзе Асёл, запрэжаны ў вазок. Побач з Аслом цягнецца Язэп. На вазку сядзіць Марыя з Дзіцяткам. Параўняўшыся з невысокім, але раскідзістым дрэвам, Язэп спыняе Асла.

Язэп. Адпачнём пад гэтым дрэвам, Марыя. Няхай наш добры Асёл пад'есць калючак. *(Дапамагае Марыі з Дзіцяткам злезці з вазка і ўсаджвае іх пад дрэвам. Потым выпрагае з вазка Асла і сам сядае пад дрэвам.)*

Выпіўшы вады і з'еўшы па кавалку хлеба, людзі засынаюць. Асёл сілкуецца галінкамі дрэва.

На небе гаснуць зоркі. Нечакана адна з іх спускаецца на дрэва, пад якім стаіць Асёл.

Зорка. Мір табе, божае стварэнне!

Асёл *(уздымае галаву).* Зорка?

Зорка. Рада цябе зноў бачыць, братка Асёл. Ты вяртаешся з Бэтлеема?

Асёл. Ах, Зорка, маё падарожжа было дарэмным. Я не сустрэў у Бэтлееме Бога. Можа, Ён так і не прыйшоў на зямлю?

Зорка. Мілае, наіўнае асляня! Ты яшчэ не здагадаўся, што за дзіцятка нарадзілася ў той занядбанай стайні? Ты яшчэ не ведаеш, каго ты выратаваў?

Асёл *(не разумее).* Дзіцятка? *(Глядзіць на Марыю з Дзіцяткам.)* Так, я сустрэў у Бэтлееме гэтых няшчасных людзей і хачу ім дапамагчы.

Зорка. Ты вязеш у сваім вазку Бога, братка Асёл.

Асёл. Бога? *(Не верыць.)* Ты жартуеш?

Зорка. Зірні сам.

Зорка і Асёл глядзяць на Дзіцятка, якое спіць на руках у Марыі. Галіны дрэва звілі над ім жывую альтанку. Над альтанкаю водзяць карагод зоркі, якія спусціліся з неба. Чуваць мілагучны спеў.

Асёл. Бог на маім вазку... Такі маленькі і бездапаможны... Такі падобны да чалавека...

Зорка. Ён вырасце і выправіць памылкі чалавека. Ён жауратуе Сусвет. Ты дапамог яму, братка Асёл, і цяпер тваё жаданне споўніцца.

Асёл. Якое жаданне?

Зорка. Хіба ты не хацеў стаць зоркаю? Далучайся да нас, будзеш жыць на небе шчасліва і бесклапотна!

Асёл *(узрадавана)*. Я буду зоркай! Мая запаветная мара! *(Спахапіўшыся.)* Пачакай, а хто ж павязе Бога і гэтых людзей у Егіпет?

Зорка. Цябе не павінны больш цікавіць зямныя справы. Знойдзецца нехта іншы. А ты ператворышся ў зорку. *(Лічыць.)* Раз — два — тры...

Асёл *(крычыць)*. Не, не, я не згодны! Я не хачу быць зоркаю! Я хачу застацца Аслом!

Зорка *(строга)*. Што такое, братка Асёл?

Асёл. Я не хачу быць зоркаю! Я хачу застацца Аслом! Я хачу везці Бога ў Егіпет! *(Кідаецца да Язэпа і будзіць яго.)* Прачынайся, гаспадар, час выпраўляцца ў дарогу!

Язэп *(прачынаецца)*. Як гэта я заснуў? *(Будзіць Марыю.)* Уставай, Марыя, трэба ехаць далей.

Зорка *(смяецца)*. Бывай, братка Асёл. Бачу, ты сапраўды знайшоў у Бэтлееме тое, чаго шукаў. *(Знікае высока ў небе.)*

Язэп запрагае Асла, усаджвае Марыю з Дзіцяткам на вазок, і яны працягваюць свой шлях.

*Заслона*